# БЮЛЕТЭНЬ

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг.-сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 4 | 5-га верасьня 1931 году | № 4


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў па дакладу белсаўгастрэсту і канторы сьвінавод аб ходзе работ па пераходу саўгасаў на гаспадарчы разьлік.

*ад 19/VIII-1931 г.*

Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў па переводу работы саўгасаў на гаспадарчы разьлік прызнае абсалютна нездавальняючай. Гаспадарчы разьлік па сутнасьці амаль што ні ў водным саўгасе не праведзен. Дырэкцыя і рабачкомы саўгасаў апартуністычна недаацанілі ўсяго гаспадарча-палітычнага значэньня гэтай работы і абмежаваліся толькі фармальнай справай—кабінетным заключэньнем дагавароў з адпаведнымі арганізацыямі на здачу таварнай прадукцыі.

2) Яшчэ і да гэтага часу дырэкцыя і рабачкомы саўгасаў не зразумелі, што ўнядрэньне хозразьліку зьяўляецца асновай выкананьня прамфінплянаў, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, зьніжэньня сабекошту, паляпшэньня якасьці прадукцыі, узьняцьця вытворчасьці працы і далейшае паляпшэньне матар'яльна-бытавых умоў рабочых. Таму навакол унядрэньня хозразьліку не былі мабілізаваны ўдарнікі, рабочыя і спецыялісты саўгасаў і не папулярызавана сярод іх значэньні і задачы хозразьліку.

3) У выніку таго, што саўгасы па сутнасьці не перайшлі на хозразьлік і ён не ўведзен на вучастках, цэхах, трактарных калёнах, тэхнічных і падсобных прадпрыемствах і г. д. мы маем такія **ганебныя прарывы**, як:

а) Па саўгасам Белсаўгастрэсту за 1-е паўгодзьдзе 1931 г. прамфінплян выканан толькі на 56,8%. Капітальнае будаўніцтва пад пагрозай зрыву. Нарыхтоўка жывёлы выканана на 33% (саўгасы Самуэлево, Анополь, Дарашэвічы, Стрэлічава, Дашкоўка, і другія зусім не распачалі нарыхтовак жывёлы). Рэалізацыя таварнай прадукцыі за ліпень месяц складае—па саўгасу „Цытва"—0,12%, Ліпава—0,2%, Уздзянка Габрыелеўка—5%, Станіслававо—11,5%, і г. д.

б) Па саўгасам Сьвінаводу—укамплектаваньне сьвінаматкамі выканана на 52% (саўгасы Вішнеўка, Харомцы, Крывое, Вейна, Бацэвічы, Вызваленьне і др. ганебна плятуцца ў хвасьце па камплектаваньні сьвінаматак і здачы таварнай прадукцыі).

Здача таварнай прадукцыі ў саўгасах Сьвінавод—па сьвіньням складае—8%, па малаку—42,7%. Ход будаўніцтва знаходзіцца ў пагражаючым становішчы.

в) У большасьці Белсаўгастрэстаўскіх і Сьвінаводчых саўгасаў па стараму наглядаецца безгаспадарчнасьць. Не разгорнута барацьба за мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў. Незьліквідавана, а наадварот у асобных саўгасах павялічваецца дэбіторская запазычанасьць. Як правіла вучот работы па колькасным і якасным паказчыкам у саўгасах адсутнічая, няма намечанага кантролю з боку Трэстаў.

Прызнавая такое становішча ў пераводзе саўгасаў на хозразьлік больш нецярпімым і ўлічваючы, што пастаўленая партыяй і Урадам задача-кантроля рублём гаспадарчай дзейнасьці кожнага саўгасу можа быць выканана толькі на базе сапраўднага пераходу на хозразьлік, Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Абавязаць дырэкцыю і рабачкомы ўсіх саўгасаў безадкладна паставіць даклады на зьлётах ударнікаў, вытворчых нарадаў, на сходах рабочых у цэхох вучастках, брыгадах аб ходзе работ па пераходу на хозразьлік і ліквідацыі стварыўшыхся прарываў.

2) Дырэктару Белсаўгастрэсту т. Грыбенчыку і ўпаўнаважанаму К-ры „Сьвінавод" т. Аўчыньнікаву тэрмінова пераключыць работу апаратаў Трэстаў на лепшае аперацыйнае кіраўніцтва і практычную дапамогу па пераводу саўгасаў на сапраўдны хозразьлік, устанавіўшы точны вучот і кантроль у паасобку над кожным саўгасам.

3) Катэгарычна прыпанаваць дырэкцыі і рабачкомам саўгасаў не пазьней 20-га верасьня г/г. поўнасьцю перавесьці на хозразьлік вытворчыя вучасткі, цэхі, тэхнічныя і падсобныя прадпрыемствы (вінбравары, крахмальныя і сыроварныя заводы, млыны, майстэрні, сталяркі, трактарныя калёны і г. д.) і не пазьней 1-га кастрычніка г/г. усе галіны сьвінагадоўлі і жывёлагадоўлі (сьвінарнікі, адкормачнікі, скотны двор і г. д.) Вызначыўшы да кожнага з іх па прамфінпляну адпаведныя аб"ёмы вытворчых заданьняў і адказнасьць за выкананьне.

4) Пераход саўгасу і яго асобных вытворчых адзінак на хозразьлік патрабуя ўзмацненьня канторскай работы саўгасаў, таму Трэсты і саўгасы павінны справу вучоту работы паставіць так, каб кожны дзень была вядома ступень выкананьня прамфінплянаў па колькасным і якасным паказчыкам.

5) Папярэдзіць усе рабочыя камітэты саўгасаў, што яны нараўне з адміністрацыяй нясуць адказнасьць за сапраўдны перавод саўгасаў на хозразьлік, за выкананьне прамфінплянаў, за мабілізацыю ўсіх унутраных рэсурсаў, за зьнішчэньне безгаспадарчасьці. Таму павінны быць прыняты тэрміновыя, меры да поўнай мабілізацыі ўдарнікаў рабочых, работніц і спэцыялістаў да шырокага разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва і забесьпячэньня бальшавіцкага правядзеньня хозразьліку ў саўгасах.

6) Дырэкцыі саўгасаў і рабачкомам зараз-жа прыступіць да праверкі выкананьня дагавароў на рэалізацыю таварнай прадукцыі і забясьпячэньня саўгасаў сродкамі вытворчасьці. Прыняць меры да сваечасовага і поўнага выкананьня ў тэрмін абавязацельств, узятых па дагаворы саўгасам, адначасова патрабуя ад арганізацыі, незастанаўліваючысь у нужных выпадках пры іх парушэньні перадачы справы ў судовыя органы.

7) Абавязаць дырэктароў і старшынь рабачкомаў саўгасаў рэгулярна тры разы у месяц (5—20—30) падрабязна інфармаваць Рэспубліканскі Камітэт Трэсты аб выкананьні гэтай пастановы.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### аб кантрольных лічбах у саўгасах сьвінавода на 1932 г.

*Ад 19/VIII-31 г.*

Заслухаўшы даклад Бел. К-ры „Сьвінавод" аб кантрольных лічбах на 1932 г. Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) У аснаўным адобрыць кантрольныя лічбы па пасяўным плошчам, пагалоўя ската і таварнай прадукцыі у наступным разьмеры: агульную зямельную плошчу у 1932 г. у саўгасах „Сьвінавод

давесьці да 135.000 га, у тым ліку пахаці 92.000 га, абсямяніць як мінімум 75.000 га яравога кліну, пагалоўя сьвінаматак к канцу 1932 г. давесьці да 75.000 шт. і буйнай рагатай жывёлы 12.000 галоў. Таварную прадуцыю сьвініны зацьвердзіць у 18.000 тон і малака 20.000 цэнтнераў.

2) Прапанаваць упаўнаважанаму Трэста „Сьвінавод„ у бліжайшы час распрацаваць кантрольныя лічбы па капіталаукладаньням будаўніцтву, рабочай сілы і якасных паказчыкаў, захаваўшы прынцып складаньня кантрольных лічб з нізу (саўгасу) да верху (Трэсту) ліквідаваўшы недахопы мінулага году і у хуткім часе гэтыя кантрольныя лічбы уняcьці на разгляд Прэзыдыуму.

3) Даручыць Рабачкомам і дырэктарам саўгасаў безадкладна прыступіць да масавай прапрацоўкі кантрольных лічб па саўгасам. Давесьці кантрольныя лічбы да кожнага Рабочага. Поўнасьцю узглавіць ініцыатыву і энтузіазм ударнікаў, рабочых, работніц і спэцыялістаў. Шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ударніцтва. Забясьпечыць высоўваньне сустрэчных кантрольных лічб у кожным вучастку, цэху, брыгадзе, трактарнай калёне, тэхнічным прадпрыёмстве, сьвінарніку, скотным двару, адкормачніку і у кожнай вытворчай адзінке. Усю работу па апрацоўцы і складаньні кантрольных лічб праводзіць пад лёзунгам „Ні воднага саўгасу, вучастку, цэху, ні воднай вытворчай галіны без сустрэчных лічб„. поўнасьцю выканаем прамфінпляны 1931 г. Ні воднага рабочага, работніцы і спэцыяліста не унесшага сваей прапановы„.

4) Дырэктыўнае пісьмо дырэктарам саўгасаў і рабочым камітэтам аб парадку прапрацоўкі кантрольных лічбаў зацьвердзіць у скарочаным відзе зьмясьціць у газэце „Сельгасрабочы Беларусі“.

5) Кантрольныя лічбы распрацаваць па вытварчым вучасткам саўгасаў, перавесьці іх на гаспадарчы разрахунак, улічвая усе мясцовыя умовы і рацыяналізатарскія прапановы рабочых.

6) Даручыць саюзнай газэце „Сельгасрабочы„ сыстэматычна зьмяшчаць артыкулы аб кантрольных лічбах на 1932 г. дапамагая рабочым камітэтам у поўнай распрацоўке аснаўных паказчыкаў прамфінпляну на 1932 г. кантрольныя лічбы шырока асьвяшчаць у раёным друку і насьценгазэтах саўгасаў, прыцягвая рабочыя массы да актыўнага удзелу у гэтай працы.

7) Катэгарычна папярэдзіць рабочых і дырэктароў саўгасаў аб тым, што посьпехі кантрольных лічбаў 1932 г. будуць залежаць ад таго наколькі зараз жа будзя мабілізавана уся саўгаская грамадзкасьць на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну 1931 г. па усім колькасным і якасным паказчыкам.

## *ДЫРЭКТЫЎНЫ ЛІСТ*

### Усім Дырэктарам саўгасаў і рабочым камітэтам.

На падставе пастаноў дырэктыўных і ўрадавых ворганаў Трэст „Сьвінавод“ па БССР павінен давесьці ў гэтым годзе зямельную тэрыторыю да 35000 га, мець ня меньш 10000 га пахаці, засеяць яравы клін у 1932 годзе мінімальна ў 75000 га, давесьці малочнае стада ў саўгасах к канцу 1932 г. да 75000 сьвінаматак, здаць таварнай прадукцыі 18000 тон сьвініны і выканаць больш 20.000.000 праграму будаўніцтва.

У якасьці аснаўных задач склданьня кантрольных лічб на 1932 г. пастаўце і забясьпечця ажыцьцяўленьня:

1) Рашучае змаганьне па мабілізацыі зямельных фондаў, максымальнае ўзбуйненьне старых гаспадарак за кошт новых прырэзак, распашак, раскарчовак і меліарацыі. Не павінна быць гаспадаркі меньш 1500 га пахатных зямель у 1932 годзе, па якім у гэтым годзе павінны быць праведзены на ўсе 100% работы па пад'ёму на зябь.

2) Поўнае забесьпячэньне аснаўнога пагалоўя ската грубымі і сакавітымі кармамі, пры ня меньш 30% забясьпячэньня зярнавымі кармамі.

3) Ажыцьцяўленьня ўсіх мерапрыемств аграмінімума па ўздыму ўраджайнасьці ня меньш 5% у параўнаньні з кантрольнымі лічбамі г. г.

4) Правядзеньне усіх ветэрынарна-зоотэхнічных мерапрыемстваў, забясьпечваючы захаваньня ўсяго пага-

лоў'я ската, таварны выхад ня меньш 10 парасят у год, нармальныя прыплоды і апаросы. Барацьба за случную кампанію павінна зьявіцца цэнтральным зьвяном у ажыцьцяўленьні ўсіх мерапрыемств.

5) Кожны саўгас павінен паставіць задачай павялічэньня ўдояў малочнага стада на 15-20%, даведзя ў сярэднім удой па саўгасу да 20000 літраў у год, максімальна павялічыць таварную здачу малака дзяржаве захоўвае ўвесь маладняк ад свайго стада.

6) Мэханізацыю вытворчых працэсаў у палявой гаспадарцы на 60%

7) Забясьпечыць будаўніцтвам усе пагалоў'я ската, рабочую людзкую сілу і гаспадарчыя будынкі лёгкага тыпу.

8) Поўнасьцю забясьпечыць саўгасы пастаяннаю рабочаю сілаю і тэхнічнымі кадрамі.

Пры распрацоўцы кантрольных лічбаў на 1932 г. карыстацца наступнымі:

## 1. Пасяўныя плошчы.

Уся плошча пахаці і годнай зямлі цад пахаць павінна быць поўнасьцю абсеменена, максымальнае ўцягненьне ў гаспадарчы зварот усе адбросавыя да гэтага часу землі. Чыстага пару не павінна быць. Ні воднага га не засеянай плошчы.

2) Пры разьмяркаваньні пасеўнай плошчы па культурам неабходна выходзіць з глебавых умоў гаспадаркі, забясьцечанасьці ўласнымі грубымі і сакавітымі кармамі, пры чым плошчы пад кармавыя травы, корань-клубнеплоды, сіласныя культуры павінна павялічвацца, а не зьмяншацца.

3) У шмат гадовыя травы чыстага высеву ўваходзяць культуры, прызначаныя для штучных выпасаў і сенажацяў, у аднагадовыя вікааўсяныя мешанкі, сэрадэла, пялюшка, і інш.: у іншыя зярнавыя і бабовыя грэчка, проса,яравая пшаніца, лубін на насеньне і ўгнаеньне, гародніна і інш. прычым пасеўныя плошчы павінны быць паказаны па асобку па культурам.

4) Пры вызначэньні плошчы падсева канюшыны 1932 года неабходна мець на ўвазе далейшае ўзбуйненьне саўгасу і пад канюшынай павінна быць занята 20% пасеўных плошчаў. Занятую плошчу пад травамі неабходна паказваць па гадам пасеву.

5) Вызначэньне пасеўной плошчы ўзгадніць папярэдне з Райвыканкомамі, улічыць рэальна магчымыя прырэзкі і рашуча дабівацца далейшага ўзбуйненьня саўгасу. Аднака, папярэджваем, што Вашы кантрольныя лічбы павінны быць складзены выходзячы зусім з рэальных зямельных рэсурсаў, так як на падставе іх будзя распрацоўвацца промфінплян на 1932 г. Папярэдзьце ў сувязі з гэтым Райза, што ў Верасьні месяцы „Сьвінавод" ніякіх зямель дадаткова прымаць ня будзя.

6) Цягавая мэханічная і жывая сіла вылічана па пасеўным плошчам пры нармацівах: на трактар 10/20 сіл і 20 га пасеву, на адну мэханічную сілу 12 га пасеву, адзін конь ровен 0,6 мэх.сіле.

## II. Меліарацыя

1) Уключыць усю плошчу натуральных сенажацяў і выпасаў патрабуючых асушкі для вытвару гідра-тэхнічных вышуканьняў і складаньняў праэктаў асушкі на 1932 г. Для інтэнсіўнай і экстэнсіўнай асушкі ўключыць усю плошчу на якой ужо прароблена гідра-тэхнічнае вышуканьне, а так сама неабходна ўключыць тую плошчу, на якіх будуць рабіцца вышуканьня ў 1932 г. дзе разам з вытварам вышуканьня працы магчыма зрабіць асушальныя работы.

2) Вытварыць раскарчоўку пней, хмызьняку, зрэзаць куп'я на ўсёй плошчы, якія патрабуюць ня звыш 20 рабочых дзёи на адзін гэктар і па 50% на тых плошчах, якія патрабуюць звыш 20 рабочых дзён на гэктар.

3) Вытварыць успашку сухадольных сенажацяў пад пад пахаць і штучныя выпасы. Праэкт працы павінен быць прыкладзен да прамфінпляну з дэталёвым паказаньнем усіх затрат, без чаго Трэст ня можа зрабіць асыгнаваньняў на гэту мэту.

## III. Сьвінагадоўля

1) Укамплектаваньне сьвіного пагалоў'я да 75000 сьвінаматак і здача 18000 тон сьвініны зьяўляюцца галоўнымі задачамі сьвінагадоўлі. Кантрольныя лічбы ні ў якім разе не павінны быць зьменьшаны. Агульнае пагалоў,я вылічваецца па пасеўным плошчам з разьліку на адну сьвінаматку ад аднаго га 2,5% га, у залежнасьці ад адлегласьці саўгасу ад станцыі.

2) Таварная прадукцыя вылічана наступным чынам: узят асеньні зімні прыплод ад 80% сьвінаматак на 1-Студзеня 1932 г. плюс маладняк за выключэньнем рамонта і на пашырэньне стада плюс парасята па становішчу на 1 Студзеня 1932 г., а таксама выбракоўка матачнага і храчнага стада. Выхад таварных парасят 1932 г. прынят 5 штук ад аднаго апароса сьвінаматак на 1/1-32 г.

3) Буйная рагатая жывёла разьлічаецца па пагалоў'ю сьвіней з разьліку дна карова на 7 сьвінаматак у промгасах і 5 сьвінаматак у племгасах. Пры наяўнасьці натуральных сенажацяў і выпасу колькасьць жывёлы можа быць павялічана.

### IV. Будаўніцтва.

1) У пляне будаўніцтва на 1932 г. неабходна паказаць усе будаўнічыя аб'екты, якія-бы забясьпечылі поўнасьцю ўсе пагалоў'е скота, рабочую сілу, гаспадарчыя патрэбы ў самых мінімальных разьмерах. Пры чым разьмеры будынкаў паказваць у куба мэтрах, сьвінамесяцах, а не колькасна. Так сама неабходна паказаць колькі маецца жыльлёвай плошчы і колькі пастаянных і сэзонных рабочых будзя ў 1932 г. Сьвінамесцы павінны будавацца з разьліку 50% для супаросных матак, 50% халастых, 5 сьвінамесц адкормачных ад аднаго апароса і 5-7, 5% ізалятараў ад усіх сьвінаматак у залежнасьці ад аб,ёму гаспадаркі. У кантрольных лічбах прадугледзіць гаражы, машынныя сараі, карма-зерна-хавальнікі і іншыя.

На вакол складаньня кантрольных лічбаў неабходна прыцягнуць усю саўгаскую грамадзкасьць і рабочыя калэктывы. Лічбы распрацаваць па вытворчым брыгадам, цэхам на вытворчых нарадах і агульна саўгаскіх сходах. Максімальна скарыстаць насьценгазэту, раённы друк у барацьбе за кантрольныя лічбы, за прамфінплян 1932 г.

Рабочыя камітэты павінны ўзглавіць кіраўніцтва рабочымі, калектывамі па распрацоўцы кантрольных лічб. Ні воднага рабочага камітэту не павінна быць безустрэчных плянаў кантрольных лічбаў на 1932 г.

Упаўнаважаны Трэста „Сьвінавод“ па БССР **Аўчыньнікаў**



Катэгарычна падкрэсьліваем, што посьпехі выкананьня агромністых задач 1932 г. знаходзяцца ў прамой залежнасьці ад таго на колькі пачне своечасова і добраякасна будзя выканан прамфінплян 1932 г. Чаму, Вашым цэнтральным абавязкам зьяўляецца дабіцца выкананьня пляна ўкамплектаваньня сьвінаматак, случак, сапраўднага спыненьня злачынства высокага адходу сьвіней, што працэнтнае выкананьне пляну па стварэньню ўласнай кармавой базы, поўная ўборка, выканананьню пляна сіласаваньня, ўборка другіх укосаў і інш. 100% безагаворачная самая добраякасная вытварэньне зяблевай пахаці, добраякаснае правядзеньне засеву азімых, выканаць плян як мінімальна, поўнасьцю выканаць будаўнічыя праграмы перавесьці ўсю работу на сапраўдна бальшавіцкі штурм, на сацыялістычныя мэтады працы. Толькі пры шырачайшым удзеле саміх рабочых мас, пры выкарыстоўваньні іх творчай ініцыятывы пры разгорнутым сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтвам на аснове барацьбы з абязьлічкай, безгаспадарчасьцю, цякучасьцю рабочай сілы, на аснове барацьбы з кулацкімі-шкодніцкімі элемэнтамі вёскі і ў саміх саўгасах мы разварачваем шлях сацыялістычнага будаўніцтва і забясьпечваем выкананьне прамфінпляну гэтага і бягучага году.

Абгаварэньнем кантрольных лічбаў неабходна шырока выкарыстаць для практычнай рэалізацыіі адозвы ЦК КПБ і СНК Саюзу.

Абавязваем усіх дырэктароў распрацаваныя кантрольныя лічбы ўзгадняць з раённымі камітэтамі. Прасіць Райвыканкомы ўзяць пад свой кантроль распрацоўку кантрольных лічбаў па саўгасам, забясьпечыць плян вызначаных мерапрыемств як мінімальных і аказаць рэальную дапамогу па ажыцьцяўленьню пляну гэтага году.

Кантрольныя лічбы павінны быць дасланы ў Бел. К-ру Трэста „Сьвінавод“ не пазьней 20-га Верасьня 1931 г. пры гэтым дасылаюцца для аблягчэньня ў працы па складаньню кантрольных лічб формы блянак.

Старшыня РК саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў **Маслава.**

*ДЫРЭКТЫЎНЫ ЛІСТ.*

**аб практычных мерапрыёмствах па ўдзелу саюзных арганізацый у прапрацоўцы кантрольных лічб і сустрэчнага прамфінпляну на 1932 г. па жывёлагадоўчым саўгасам.**

Сацыялістычныя формы труда, як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы ўключаюць у сябе ня толькі выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў і кантрольных лічбаў па заводу, фабрыке і саўгасу, але і патрабуя ад рабочага калектыву прадпрыымства канкрэтнага і штодзёнага ўдзелу ў пытаньнях плянаваньня і асабліва сустрэчнага плянаваньня тых вытворчых заданьняў, якія могуць быць прад'яўлены прадпрыёмству рабочым калектывам на аснове заданьняў, прэподаных плянірующым органам нашай народнай гаспадаркі.

Галоўнай задачай, якая ставіцца сустрэчным плянаваньнем яўляецца мабілізацыяй і прыцягненьнем творчаскай энергіі рабочых на максімальнае выяўленьне ўсіх вытворчых рэсурсаў і магчымасьцей у прэдзелах самой гаспадаркі і мабілізацыі іх на справу сацыялістычнага пашырэньня вытворчай магутнасьці прадпрыёмства і выпуска максімальна магчымай валавой і таварнай прадукцыі, на аснове лепшай арганізацыі вытворчасьці, скарыстаньня рацыяналізатарскіх і другіх рабочых прапаноў, поўнай загрузкі і скарыстаньня абарудаваньня машын, трактароў, жывой цягавай сілы і іншага абарудаваньня.

Зьяўляясь кіраўнікамі сацыялістычнай арганізацыі труда прафесыйныя арганізацыі павінны сусей дасканальнасьцю прапрацаваць пытаньні, зьвязаныя з сустрэчным плянаваньнем і ўлічвая вопыт прамысловых рабочых вазглавіць актыўнасьць рабочых мас саўгаса па канкрэтнаму ўдзелу ў плянаваньні вытворчых заданьняў на 1932 г., прыцягвая да гэта работы ўдарнікаў і лепшых рабочых актывістаў.

**1. Арганізацыйныя мерапрыемствы.**

У ва ўсіх саўгасах жывёлагадоўчых сыстэм арганізуюцца сталыя дзейнічаючыя агульна-саўгаскія дабраахвотныя апэрацыйна-плянавыя брыгады. У склад агульна-саўгаскай плянавай брыгады уваходзяць:

а) памоцнік дырэктара па вытворчым нарадам, альбо кіраўнік вытворчай нарады.

б) Прадстаўнік мясцовай сэкцыі спэцыялістых,

в) прадстаўнік ад партыйна-камсамольскіх арганізацый;

г) 5—7 дабраахвотнікаў рабочых актывістаў, ударнікаў вядучых галін і прафэсій,

Работа плянавай брыгады праводзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам рабочага камітэту. Кірауніком брыгады назначаецца рабочым камітэтам адзін з вылучаных таварышоў, на якога ускладаецца уся адказнасьць за работу брыгады перад рабачкомам.

2) Адначасова з агульна-саўгаскай плянавай брыгадай арганізуюцца штодзённыя дзейнічаючыя плянавыя брыгады на вучастках, якія кіруюць і распрацоўваюць матар'ялы плянавай групы (скотнага двара, сьвінарніка, трактарнай калёны і г. д.).

У склад вучастковых плянавых брыгад уваходзяць:

а) Кіраўнікі вучастковых вытворчых нарад;

б) Ад спэцыялістых (зоотэхнік вэтурач, аграном).

в) 5—7 дабраахвотнікаў рабочых актывістаў, ударнікаў, вядучых прафэсый,

У кожным скотным двары, сьвінарніку, трактарнай калёне, вучастках, цэхах і г. д. арганізуюцца плянавыя брыгады. Паказаныя брыгады складаюцца з рабочых актывістых, ударнікаў, дабраахвотнікаў, з прыцягненьнем спэцыялістых.

УВАГА: Колькасны склад вучастковых і іншых брыгад устанаўліваецца рабочым камітэтам у залежнасьці ад разьмераў вучастка, скотнага двара і наяўнасьці рабочых. Усе кіруючыя паказаньні вучастковыя брыгады атрымоўваюць ад агульна саўгаскіх плянавых брыгад і ад вучастковага рабочага камітэту.

## II. Ісходныя прынцыпы пры распрацоўцы паказчыкаў сустрэчнага пляна.

1) Распрацоўку усіх аснаўных паказчыкаў па сустрэчнаму пляну на 1932 год павінна разьвярнуцца да прысылкі ў саўгас кантрольных заданьняў праўленьня Трэста, выходзячы з намётак саўгаса па прадпалагаемым кантрольным лічбам на 1932 г. і павінна зьявіцца падрыхтаваўчым этапам к складаньню прамфінпляна саўгаса. У аснову прапрацоўкі павінна быць пакладзена:

1) Магчымасьць культурнага асваеньня адведзеных зямельных масываў як пад пасевы розных культур, так і пад естественныя сенажаці і пасьцьбішча з вызначэньнем мінімума затрат на іх асваеньня і адшуканьня крыніц пакрыцьця гэтых затрат.

2) Магчымасьці пашырэньня пасеўных плошчаў пад кармавыя культуры (травы зернафуражныя культуры) і таварна зернавыя за кошт асвоенных зямель і канструіраваньня севазваротаў, сачэтаніе з прынятым напрамкам гаспадаркі (спэцыялізацыя).

3) Магчымасьці павышэньня ураджайнасьці культур, лугавых угодзій і пастбішч за лік скарачэньня тэрмінаў пасева, уборкі і інш. агратэхнічных і масавых мерапрыемств (гатунковыя пасевы апрацоўка, уборка, барацьба з стратамі і г. д.).

4) Пашырэньня стада яго прыросту за кошт унутры гаспадарчых магчымасьцяй, вырашчываньне маладняка, рэгуляваньне ацёла, апаросаў і паляпшэньня ухода за маладняком, яго захаваньня і г. д.

5) Магчымасьці павышэньня прадукцыйнасьці стада за лік зоотэхнічных і вэтэрынарных мерапрыёмств (мэцізацыя пры штучным абсемяненьні, падбор стада, прафелактычныя мерапраёмствы, умовы утрыманьня і ухода).

6) Магчымасьці па капітальнаму будаўніцтву у саўгасах, адшуканьне мінімума затрат на будаўнічыя работы выходзячы з мясцовых рэсурсаў (максымальнае скарыстаньне мясцовых будаўнічых матар,ялаў)

7) Распрацоўка мерапрыёмств па прымяненьню мэханізацыі і працэсаў вытворчасьці (у паляводстве і жывёлагадоўлі) адшуканьне асабліва мясцовых рэсурсаў па затратам на мэханізацыю, прымяненьнем прасьцейшых тэхнічных прыстасаваньняў, арганізацыя вынаходзтве ў саўгасах.

8) Рацыяналізацыя вытворчых працэсаў аснаўных і успамагацельных у цэлым і часткова праз лепшую растаноўку рабсілы, раздзяленьнем труда, уплатненьне рабочага часу, увядзеньнем 3-х зьменнай работы (у жывёлагадоўлі і іншых галінах) ліквідацыя абезьлічкі.

9) Мабілізацыя унутраных рэсурсаў па галіне дасканальнага вучоту і прапрацоўцы нармацівау па затратам сілочасоў на асобныя працэсы чалавека дзён, конедзён: матар'ялаў (карма, падсьцілка, гаручае, смазачныя) і скарачэньня апошніх на аснове усей савакупнасьці, рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, сацыялістычных форм труда, зьдельшчына, ліквідацыя абязьлічкі, гаспадарчы разрахунак, сквазныя брыгады і г. д.

10) Пытаньне скарыстаньня абсталяваньня сельска гаспадарчага інвентару, трактароў, жывой цягавай сілы на аснове рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў (кругла-сутачная многазьменная на працягу усяго пэрыяда работ).

11) Пытаньне скарачэньня затрат на адзінку плошчы, адну галаву прадукцыйнага стада, адзінку прадукта за лік зьніжэньня выдаткаў гаручых і смазачных матар'ялаў, эканоміі кармоў, падсьцілкі эканомнага расходваньня рабочай сілы.

12) Пытаньне складу сталых кадраў рабочых, кваліфікацыі і вытворчая навучаньне іх і барацьба з цякучасьцю, самакантрактацыя.

13) Паляпшэньня пытаньня бытавога абслугоўваньня рабочых саўгаса, пады-сканьне на гэта паляпшэньне сродак; форм і мэтады прыцягненьня сродак саміх рабочых да удзелу у паляпшэньні бытавых умоў (грамадзка каапэрацыйныя агароды, адкормачныя пункты і г. д.)

14) Пытаньні рацыяналізацыі кіраўніцтва унутры саўгасу (структура кіраўніцтва і тэхнічнае абслугоўваньне вытворчасьці), максімальнае скарачэньне не вытворчых накладных выдаткаў за лік упрашчэньня сыстэмы кіраўніцтва.

15) Пытаньні узгемнага абслугоўваньня калгасаў і саўгасаў на аснове

абаюдна вытворчых узаемаабавязацельств і шчыльная увязка з вытворчымі плянамі.

16) Прапрацоўка вынікаў прымяненьня існуючай зьдельшчыны і распрацоўка больш пераважных яе форм для усіх відаў работ.

17) Разьвіцьцё спецыяльных і падсобных галін вытворчасьці.

УВАГА: Больш падрабязны пералік пытаньняў апрача паказаных вышэй павінен быць прэдугледжан у гаспадарцы, прымяніцельна к асаблівасьцям, якія маюць мейсца у данай вытворчасьці. Практычныя мерапрыёмствы накіраваныя к дальнейшаму росту вытворчасьці, карэнному паляпшэньню якасных паказчыкаў у ва ўсіх пералічаных разрэзах гаспадаркі, павіны стаць прадметам шырокай дасканальнай прапрацоўкі рабочых і спэцыялістаў усей саўгаскай грамадзкасьці у парадку сустрэчнага пляна 1932 г.

### III. Парадак прапрацоўкі.

1) Начала прапрацоўкі усіх аснаўных паказчыкаў ідзе ад плянавых брыгад, работаючых на скотных дварах, сьвінарніках, адкормачніках і г. д., якія ўвесь сабраны і апрацованы імі матар"ял выносяць на шырокае абгаварэньне вытворчых нарад скотнага двора, сьвінарніка і цэху.

2) Прапрацованы на вытворча—групавых нарадах матар"ял плянавых брыгад з усімі мотываванымі абаснаваньнямі передаецца у вучастковыя апэрацыйна плянавыя брыгады, якія апрацоўваюць паказчыкі па усяму вучастку, суміруя іх выносяць на вучастковую вытворчую нараду, дзе усе данныя падвяргаюцца шырокай прапрацоўцы усяго вучастковага калактыву.

3) Матар"ял вучастковых плянавых брыгад перадаецца на абработку у агульна саўгаскую плянавую брыгаду, якая падрабязна распрацоўвая на аснове вучастковых матар"ялаў агульныя па саўгасу паказчкі і конструіруець сводны сустрэчны прамфінплян усяго саўгаса. Сьверстанный плян выносіцца на абгаварэньне агульна саўгаскай вытворчай нарады і пасьля гэтага ідзе на прапрацоўку па вучасткам цэхам на агульна саўгаскія сходы і затым выносіцца на разгляд трохкутніка. У выпадку разыходжаньна з дырэкцыяй агульна саўгаская брыгада даець права апеліраваць у краевыя, саюзныя арганізацыі з па драбязнай матывіроўкай па разыходжаньням.

### IV. Прыкладная рабочая праграма рабочай группы альбо плянавай брыгады па аднаму з пытаньняў Жывелагадоўлі.

Брыгада праводзіць працу па наступнай прыкладнай схеме:

1) Высьвятляець падрабязна усё пагалоўя стада данага вучастка, саўгаса асобна кожнага цеха, па узростнаму складу пагалоўя, прадукцыйнасьці і іх пароднасьці.

2) Намячая працэнт выбракоўкі выходзячы з разьліку ўзроста прадукцыйнасьці і ўмоў рамонт стада.

3) Устанаўлівая выдаткаваньне кармоў, падсьцілкі, матар'ялаў інвэнтара, асьвятленьня і г. д.

4) Устанаўлівая акупаемасьць (сярэднюю) кармоў па стаду з разьліку на адну галаву і на ўсё стада, апрадзеляя затраты на адну жывёлу і на ўсё стада.

5) Апрадзеляя працэнт павышэньня прадукцыйнасьці (удойнасьць і інш).

6) Устанаўлівая нармацівы па ўходу за скатом усіх відаў і катэгорый (дарослых і маладняка) і ўстанаўлівая патрэбнасьць у рабочай сіле па жывёлагадоўлі, устанаўлівая мэтады і прыёмы рацыённага кармленьня (нормы і час кармленьня, раздача корма, падвозка апошняга і г. д.).

7) Устанаўлівая выхад таварнай і валавой прадукцыі і якасьць апошняй.

8) Намечая мерапрыемствы па паляпшэньню склада стада ў пляменых адносінах (адбор, скарыстаньне лепшых вытворцаў, якіх, колькі, і якім чынам).

9) Устанаўлівая колькасны і якасны выхад прыплода, прыёмы ўхода за маладняком, апрадзеляя прырост стада за лік унутраных магчымасьцей.

10) Апрадзеляя магчымасьці прымяненьня мэханізацыі рада працэсаў і адшуканьня спосабаў прасьцейшых відаў мэханізацыі (падвозка корма, вадапой і г. д.).

11) Намечая (праектыруець) распарадак работ на скотным дварэ ў адпаведнасьці з зоотэхнічнымі і ветэрынарнымі мерапрыемствамі.

12) Прапрацоўвая ўмовы трохзьменнай работы і непрарыўкі і апредзеляець графік зьменнасьці.

13) Апрадзеляя скарыстоўваньне вытворцаў (вольная, ручная, случка штучная абсямененьне) і нагрузка на аднаго вытворца.

14) Апрадзеляя разьмяркаваньне ацёлаў, выжарабкі і апаросы на працягу года.

15) Намечая перачэнь мерапрыемств па зоотэхніі, ветэрынарыі (прывіўкі, меры барацьбы з эпізоотіямі, адбор, мецізацыя і г. д.).

Сэкратар ЦК Саюзу
РЖС **Вендзе.**

16) Разьмяркоўвая патрэбнасьць у рамонце скотных двароў і намечая мерапрыемствы па абсталяваньню іх.

17) Апрадзеляя патрэбнасьць у службовых пастройках праэктыруя халадзільнікі і г. д.

18) Апрадзеляя (праэкціруець) тэхнічнае абслугоўваньне стада вет. і зоотэх. пэрсаналам.

УВАГА: Увесь собранный і апрацованый матар'ял абагуліваецца ў брыгадзе і паступае на апрацоўку вытворчых нарад і на агульных сходах.

В. О. Зав. Сэктарам вытворчасьці
і плянаваньня **Петрухін.**

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлгадоўчых саўгасаў аб пераважным забясьпячэньні прамтаварамі ударнікаў рабочых і спэцыялістых саўгасаў.**

*Ад 19/VIII—31 г.*

Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў адзначае, што:

а) Ня гледзячы на яскравыя рашэньня V Пленуму УсеЦСПС аб пераважным забясьпячэньні ударнікаў, рабочыя камітэты і кіраўнікі саўгасаў, а таксама і каапэрацыйныя арганізацыі да гэтага часу яшчэ не дастаткова асазналі палітычную важнасьць і роль масавага руху ўдарніцтва і сацспаборніцтва, яны яшчэ не павернуліся тварам да ўдарніка і не прынялі ніякіх мер да пераважнага забясьпячэньня практычна не ажыцьцявілі стымуліраваньня гэтага руху.

б) Сац. Бытавы Сэктар Рэспубліканскага Камітэту недастаткова удзеліў увагі і практычна не зьвязаўся з Белкаапсаюзам па разьмяркаваньню прамтавараў саугасам на 3-й квартал, таму разнарадкі Белкаапсаюзам адпушчаны у Рай. Спаж.Т-вы без уселякага узгадненьня з Рэсп. К-там. У выніку чаго на 3-й квартал не выдзэлены фонды для пераважнага забясьпячэньня ударнікаў.

У мэтах увязкі справы забясьпячэньня з выкананьнем вытворчых плянаў, павялічэньнем вытворчасьці працы, барацьбы з цякучасьцю рабочай сілы і далейшым разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва, Прэзыдыум Рэспубліканскага К-ту РЖС ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Для перавжнага забясьпячэньня рабочых ударнікаў прамтаварамі, абавязаць Рабачкомы выдзеліць з агульнага ужо разнаражанага на 3-квартал фонду кожнага саўгасу, ня меньш 25% усіх адтрымліваемых прамтавараў.

2) Даручыць тав. МАСЛАВАЙ у двух дзены тэрмін скласьці кантрольныя лічбы па саўгасам і сумесно з Белкаапсаюзам напісаць дырэктыўны ліст па рабачкомам і Рай. Спаж. Т-вам аб скарыстаньні вылучаных фондаў для ўдарнікаў.

Для правільнага скарыстаньня вылучаных фондаў па пераважнаму забясьпячэньню ударнікаў павінен быць устаноўлен з боку рабачкома і дырэкцыі самы дасканальны вучот ударнікаў, агульнай і персанальнай праверкі іх работы.

3) рабочым камітэтам сумесна з адміністрацыяй скласьці сьпісы лепшых ударнікаў праявіўшых сябе сыстэматычна у правышэньні заданьня. Сьпісы ударнікаў абавязкова абгаварыць на вытворчых нарадах і зьлётах ударнікаў і канчаткова зацьвердзіць іх на агульных сходах рабочых.

4) Арганізацыя ажыцьцяўленьня сыстэматычнага кантролю за першачарговасьць забясьпячэньня ударнікаў прамтаварамі ускладаецца на вучастковыя і агульна-саўгаскія камітэты. Сац. Бытавому Сэктару перыядычна сачыць і пра-

вераць выкананьне разнарадак і правідловасьць забясьпячэньня прамтаварамі ударнікаў.

5) Даручыць Сац. Бытавому Сэктару Рэсп.К-та сваечасова забясьпечыць удзел у размяркаваньні фондаў прамтавараў для саўгасаў на 4-й квартал і прадставіць сваё меркаваньне па гэтаму пытаньню на Прэзыдыум.

6) Лічыць нэдапушчальным, калі Белкаапсаюз пры размяркаваньні прамтавараў пя саўгасам на 3-й квартал не улічыў іх колькасьці і выкананьня саўгасамі вытворчых плянаў, што патрэбна улічыць Сац.Бытавому Сэктару пры наступным размяркаваньні прамтавараў на 4-й квартал і канчаткова даўмовіцца з Белкаапсаюзам каб не было гэтых зьявішч.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыўму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў

*Аб удзеле саюзу па стварэньні баявога Аўтадорскага фонду матарызацыі прымежных войск.*

Рабочая кляса Савецкага саюзу пад выпрабаваным сталёвым кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дабілася вялізарных посьпехаў на ўсіх франтох нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Вядучая роля прамысловасьці і хуткія тэмпы індустрыялізацыі нашай краіны забясьпечылі небачаныя посьпехі сацыялістычнае рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, шляхам будаўніцтва, саўгасаў, калгасаў і МТС.

Мы ўступілі ў пэрыяд сацыялізму, ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі мы завяршаем пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі. У нас у савецкім саюзе толькі ў гэтым 1931 годзе капіталаўкладаньні ў народную гаспадарку складаюць 21 мільярд рублёў. У бягучым годзе ўступаюць у строй новых 518 прамысловых гігантаў і 1040 машынатрактарных станцый. А там, за мяжой — увесь капіталістычны сьвет ахоплен нябывалым эканамічным крызісам. У нас растуць фабрыкі, заводы, саўгасы, МТС і калгасы, на аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва, як кляса,—апошняя апора сусьветнага капіталізму ўнутры нашай краіны. У іх—закрываюцца заводы і фабрыкі. У нас штодзённа паляпшаюцца матар'яльна-бытавыя ўмовы рабочых. У іх рабочыя і ўсе працоўныя масы стогнуць ад жабрацтва і нечалавечных умоў жыцьця. У нас поўнасьцю зьліквідавана беспрацоўе і толькі ў гэтым годзе патрэбна у прамысловасьць каля 3-х мільёнаў рабочых. У капіталістычных краінах — 40 мільёнаў беспрацоўных рабочых і кожны дзень выкідваюцца за вароты фабрык і заводаў дзесяткі тысяч рабочых

Мы хуткімі тэмпамі ідзём да сацыялізму, а капіталізм да сваёй пагібелі. Капіталстычны сьвет разьдзіраемы ўнутранымі супярэчнасьцямі, перажываючы жорсткі эканамічны крызіс шукае выхаду з такога становішча ў нападзе на Савецкі Саюз. Капіталісты рыхтуюць вайну супроць СССР. Наша палітыка,— палітыка міру. Мы вайны ня хочам, аднак да абароны заўжды гатовы.

Мы павінны яшчэ больш умацоўваць абраназдольнасьць нашай краіны, узмацняць чырвоную армію — вернага вартавога Савецкіх межаў.

Савецкая Беларусь, якая мяжуе з фашыстаўскай Полшчай — ёсьць фарпост Савецкага Саюзу. БССР з краіны раней сацыяльна і нацыянальна—прыгнечанай стала квятнеючай крайнай, ператвараецца ў індустрыяльную саўгасна-калгасную краіну. А ў фашыстаўскай Польшчы тысячы рабочых і сялян караюцца цяжкім вастрогам за абарону свайго кавалку хлеба, свайго жыцьця. Зараз Польшча зьяўляецца вастрогам народу. Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна абліваючыся крывёю працоўных, стогнуць пад пятой панскіх ботаў. Фашысцкая Польшча — аванпост сусьветнага капіталізму для нападу на Савецкі Саюз.

Наша задача ўзмацняць прымежныя вайска,—вартаўнікоў нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

Вось чаму поўнасьцю адабраючы ініцыятыву Цэнтральнага Праўленьня Аўтадору БССР і пачын саўгаскіх рабочых аб стварэньні баявога Аўтадораўскага фонду матарызацыі пагранічных

р

войск, прэзыдыум рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС пастанаўляе:

а) даць абавязацельства аўтадору БССР за верасень кастрычнік месяцы г/г сіламі і сродкамі нашага саюзу сабраць ня менш 35—40 тысяч рублёў у фонд матарызацыі прымежных войск;

б) на сабраныя сродкі пабудаваць танк імя „Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў“;

в) заклікаць усіх рабочых, работніц і спэцыялістаў саўгасаў прыняць актыўны ўдзел у зборы сродак на пабудову танка;

г) абавязаць усе рабочыя камітэты, саўгасы, мясцкомы і прафкомы навучальных устаноў зараз — жа прыступіць да правядзеньня шырокай растлумачальна — масавай работы і узглавіць ініцыатыву і самадзейнасьць рабочых мас. Усю работу праводзіць мэтадамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва пад лёзунгам: „Не пазьней 1-га лістапада дадзім прымежным вайскам танк імя саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў“. „Ні воднага рабочага, работніцы і спэцыяліста не прыняўшы удзел у зборы сродак на танк“.

е) для збору сродак на пабудову танка неабходна максымальна разгарнуць ініцыатыву і самадзейнасьць рабочых калякты[в]аў саўгасаў шляхам арганізацыі лётарэй, платных сьпектакляў, суботнікаў, збору металалому, уцільсыр‘я (у саўгасах, калгасах і вёсках);

ж) арганізаваць збор сродак на танк і па падпісным лістам, але выключна на дабраахвотных пачатках. Пры чым зборшчыкі абіраюцца самімі рабочымі ў кожнай вытворчай адзінцы (брыгада, вучастак, цэх, сьвінарнік, скотны двор і г. д.) а блянкі лістоў зварачваюцца рабачкомам. Рабачкомам неабходна устанавіць строгі кантроль і вучот зьбіраемых сродак;

з) у тых выпадках, калі рабочыя падпісаліся і ня маюць зараз наяўнасьці грошай за іх, згодна падпісных лістоў, павінна ўнесьці грошы адміністрацыя саўгасу да атрыманьня зарплаты;

і) сабраныя грошы рабачкомы, мясцкомы і профкомы павінны праз кожныя 3 дні перасылаць дзяржбанку на спэцыяльна адкрыты для гэтай мэты бягучы рахунак № 86/101915. Аб пераводзе грошай рэгулярна паведамляць рэспубліканскі камітэт;

к) рабачком тых саўгасаў, па суседству з якімі знаходзяцца прымежныя часьці яшчэ больш узмацняць з імі садружэственную работу;

л) усім рабачкомам, мясцкомам і прафкомам у час правядзеньня збору сродак на танк прыняць меры да налажваньня сыстэматычнай плянавай работы існуючых ячэяк „аўтадор“, а дзе іх няма — арганізаваць гэткія, атрымаўшы ад раённых арганізацый неабходныя матар‘ялы, статуты і сяброўскія кніжкі.

Прэзыдум Рэспубліканскага Камітэту выражае поўную упэўненасьць у тым, што рабочая маса саўгасаў зразумеюць усё палітычнае значэньне гэтай справы, яны з энтузіазмам возьмуцца за актыўны збор сродак і на уласныя грошы пабудуюць свой танк імя „саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў“ чым яшчэ больш узмацняць матэрызацыю прымежных войск — вартаўніка меж Савецкай краіны.

**Выдавецтва Цэнтр. Праўл. Саюза Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў**

Адказны рэдактар **Маслава.**
Намесьнік **Карпусенка.**

Галоўлітбел № 2077. Зак. № 602—350 экз. Друк. Менспраўдому.